# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

ISNN 1392-7671 WWW.RUNBEL.LT

31 траўня 2004 г. № 56


## Дамкі ТБК перайшлі да іншага гаспадара!

**У мінулым нумары "Руні" мы паведамілі нашым чытачам, што нейкая асоба распачала рамонт у дамках Таварыства беларускай культуры, што месьціцца ў самым цэнтры Вільні на вул. *Žygimantų*, і абяцалі чытачам адказаць на пытаньне, ці, сапраўды, гэты дамкі перайшлі ва ўласнасьць іншага гаспадара? Пакуль што нашаму незалежнаму й бесстароннаму разсьледаваньню ўдалося высьветліць наступнае.**

Яшчэ напрыканцы 1999 г. дамкі ТБК перайшлі ва ўласнасьць канкрэтнай фізычнай асобы, а іменна – ва ўласнасьць нейкага Алексаса Патаповічуса. Новы гаспадар, нібыта, пражывае ў тых самых дамкох (у палавіне дому, якая не належыла Таварыству). Прыўлашчваньне маёмасьці ТБК згаданай асобай адбылося ў рамках абмену паміж згаданай асобай і Таварыствам. Аднак, якую іменна маёмасьць наўзамен дамкам перадаў у 1999 г. Таварыству сп. Патаповічус і якім чынам адбываўся гэты "абмен", мы яшчэ да канца ня высьветлілі.

Выглядае так, што, пачынаючы з 2000 г. і да нядаўняга часу, Таварыства знаходзілася й вяло сваю дзейнасьць у памешканьнях, якія яму не належылі. Зь месяц таму нязьменны старшыня ТБК сп. Хведар Нюнька абвесьціў, што Таварыства ў сувязі з тым, што дамкі прыйшлі ў цалкавіты заняпад, абмяняла (?) іх на трохпакаёвую кватэру на вул. *Brolių* (вуліца ў непрыстыжным гарадзкім раёне *Naujininkai*). Мы даведаліся, што гэтая кватэра, сапраўды, належыць Таварыству. Аднак такі "абмен" ніяк нельга назваць раўнацэнным: паводле сёньняшніх меркаў дамкі на вул. *Žygimantų* каштуюць каля 1 млн. літаў, а кватэра на вул. *Brolių* – толькі 60-80 тыс. літаў, г. зн. у 10 разоў менш.

Гэтым разам мы ня будзем рабіць ніякіх камэнтароў паводле таго, што адбылося, ды падводзіць вынікі нашага разсьледаваньня. Трэба паразмаўляць зь людзьмі, асабліва зь цяперашнімі й былымі сябрамі Рады ТБК, даведацца, ці зь іхнай згоды й ведама адбываўся ў 1999 г. "абмен" маёмасьцю, высьветліць іншыя дэталі. Пра ўсё пра гэтае вы даведаецеся ў наступным нумары нашае газэты. Адно ясна, што беларусы-віленчукі страцілі прэстыжнае мейсца для грамадзкай ды іншай дзейнасьці ў самым цэнтры нашай старажытнай сталіцы й, калі гэта магчыма, трэба пастарацца вярнуць гэтае мейсца законным уладальнікам.

ВІЛЕНСКІ МУЗЭЙ



*Нёман у ваколіцы Іўя.*

## Іўе

Шмат якія навукоўцы залічваюць Іўе да вельмі старажытнага мястэчка Вялікага княства Літоўскага. Яно месьціцца ў 5-6 км. ад Нёмана, на захадзе Налібоцкай пушчы. Калісьці ў ваколіцах Іўя бывала сама жонка вялікага князя Гедэміна ды на свае вочы бачыла пушчанскую прыгажосьць: агромністыя дубы, стрункія сосны, дзівосныя сьвечкі кіпарысаў-ядлоўцаў. Залажылі-ж мястэчка на беразе рачулкі Іўянкі, пры гасьцінцы з Навагрудка ў Вільню, які праходзіў таксама цераз Гальшаны ды Меднікі. У наваколіцы Іўя было шмат пекных і грозных замкаў: у Лідзе, Навагрудку, Міры, Нясьвіжы, Гальшанах, Геранёнах, Медніках дый Вільня была не за гарамі.

Іўем валодалі многія, у тым ліку й Радзівілы. У 1563 г. Мікалай Кішка збудаваў тут пекны касьцёл Сьв. Пётры й Павала, якому ў XVIII ст. зрабілі барочны выгляд. У другой палове XVI ст. ужо Ян Кішка залажыў Іўеўскую арыянскую акадэмію, рэктарам якой з 1587 г. быў Ян Ліцыні Намыслоўскі, прыхільнік Сымона Будная. Арыянскія школы былі ў Клецку, Ракаве, Любчы, Навагрудку й Нясьвіжы. А ў Іўеўскай акадэміі было 5 клясаў (аддзелаў) з шырокаю праграмаю навучаньня, якая не саступала праграмам заходнеэўрапэйскіх унівэрсытэтаў. У кляштары пры касьцёле была й свая друкарня. Пасьля 1775 г. Іўе ўвайшло ў склад Расейскай імпэрыі (Віленскай губерні).

Мае ўспаміны пра наваколіцы Іўя пачынаюцца з ваенных гадоў. Так 23 лютага 1943 г. каля вёскі Яталтавічы п'яныя савецкія партызаны расстралялі калёну нямецкіх

*Працяг на старонцы 7*



*Дуды ў Іўеўскім р-не. Ахвярны Камень. Так люд называе – адзін з найдаўнейшых помнікаў на Літве. Знаходзіцца на полі Людвіка Радзецкага-Мікуліча. Малюнак Н. Орды. Сярэдзіна XIX ст.*

# Будславу – 500!

На стыку Докшыцкага й Мядзельскага раёнаў Віцебскай вобл. месьціцца невялічкае ды вельмі старажытнае мястэчка Будслаў. Сюды, у Будслаў, штогод улетку едуць і йдуць ня толькі зь Беларусі, а й з усяго хрысьціянскага сьвету, вернікі-каталікі, каб памаліцца й пакланіцца перад цудатворным абразам Маці Божай Будслаўскай. Не абмінаюць яе й праваслаўныя. Гэтае вялікае сьвята адбываецца 2 ліпеня.

У 1504 г. кароль Аляксандар Ягелончык выдаў прывілей, паводле якога віленскаму манастыру айцоў-бернардынцам перадавалася 6000 маргоў лесу над ракой Сэрвеч у межах паміж ейнымі прытокамі Зуяй і Туракам, па якіх манахі сплаўлялі лес у Вільню. У летні час адзін з бэрнардынцаў жыў у лесе ў драўляным будане-будзе ды прыглядаў за лясным багацьцем сваіх братоў. Паселішча, якое ўзьнікла вакол гэтай "буды", зь цягам часу разраслося і ў 1732 г. займела права называцца горадам. Сучасная назва, Будслаў, ведамая з канца XVIII ст.

Захавалася паданьне аб узьнікненьні Будслаўскай Сьвятыні. Адно зь іх я пачуў ад сваёй маці Фэліцыі: "Гэта было ў даўніну. На цудоўным прыгожым мейсцы каля ракі дарослыя й падлеткі езьдзілі на начлег, каб даглядаць ноччу сваіх коней. Тут яны збудавалі з жэрдачкаў і гальля будку, дзе кожны вечар перад сном маліліся Богу. Гэтыя малітвы былі пачутыя Богам і аднойчы перад імі зьявілася Маці Божая... Пазьней на гэтым мейсцы быў пабудаваны кляштар, дзе жылі манахі, а вакол кляштару ўзьнікла паселішча, якое атрымала назоў ад слова "будка" або "буда" – Будслаў". У будслаўскім касьцёле абраз Маці Божай Будслаўскай паявіўся ў 1613 г. А перад гэтым уладальнікам абраза быў менскі ваявода Ян Пац, каторы быў кальвіністам, аднак пасьля таго, як перайшоў у каталіцтва, зрабіў паломніцтва ў Рым, дзе ў 1593 г. з рук папы рымскага Клемена VIII і атрымаў гэты абраз. Спачатку абраз быў устаноўлены ў капліцы палаца ўладальніка ў Вільні. Затым ксёндз Ісак Салакай перавёз яго ў Даўгінава. У Вялікую Пятніцу 1613 г. гэты ксёндз разам з абразам быў на набажэнстве ў Будслаўскім касьцёле й манахі-бернардынцы выпрасілі ў яго Сьвятыню для свайго касьцёлу.



Будслаў сёньня – сяло, дзе ёсьць сельсавет, старэнькі клюб й сярэдняя школа, што носіць імя Паўліны Мядзёлкі. Дырактарам школы зьяўляецца сп. Дземідовіч В. Ф. Школа імкнецца працягваць традыцыі мінулага, калі руплівуцы беларушчыны яшчэ ў 1918 г. заснавалі Будслаўскую гімназію, хаця яна й прайснавала нядоўга, бо польскія ўлады закрылі яе. Будслаў гэта радзіма нашай выдатнай акторкі Паўліны Мядзёлкі, тут, на мяйсцовых могілках, яна знайшла вечны спачын. З Будславам зьвязаная жыцьцё беларускага руплівуца Антона Войціка, які нарадзіўся пад мястэчкам у в. Вярэнькі. Ён быў мужам нашай старэйшай пісьменьніцы Зоські Верас. Іхная дачка Галіна Войцік і цяпер працуе на ніве беларушчыны, працягваючы справу сваіх бацькоў. Будслаў – малая радзіма шмат якіх іншых беларускіх дзеячоў. Сёньня ён славіцца працавітымі людзьмі, як фэрмэр Пётра Хацяновіч і разьбяр па дрэве Юры Шворань.

**Юры Гіль**

# Мартыралёг Віленскага краю

136. Озераў Анатоль Савельевіч, 1909 г., нар. в. Бароўня Віленскай губ., жыў у пас. Верх-Туендат Асінаўскага р-на, член калгаса "6-й съезд Советов". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
137. Папоў Яўген Іванавіч, 1888 г., нар. м. Трабы Ашмянскага павета Віленскай губ., жыў у в. Зыранскае, юрыст Зыранскага пункту "Заготзерно". Арыштаваны ў 1934 г. Асуджаны на 3 гады ППЛ.
138. Паўлоўскі Аляксей Казіміравіч, 1891 г., нар. в. Сіўцы Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у в. Цідзерлінка Асінаўскага р-на, член калгаса "Красный пулемет". Арыштаваны ў 1938 г. Асуджаны на 8 гадоў ППЛ.
139. Пінчук Пётр Пятровіч, 1898 г., нар. в. Старынка Вілейскага павета Віленскай губ., жыў у г. Калпашава, член калегіі абаронцаў пры Нарымскім акружным судзе. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
140. Пічуліс Мікалай Пятровіч, 1887 г., нар. г. Ашмяны Віленскай губ., жыў у пас. Новікава Парабельскага р-на, член арцелі "Красный Октябрь". Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 10 гадоў ППЛ і 8 гадоў пазбаўлення правоў.
141. Пічуліс Пётр Пятровіч, 1888 г., нар. г. Ашмяны Віленскай губ., жыў у в. Новікаўка, кладаўшчык-касір сельгасарцелі. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
142. Пяскоў Міхаіл Казіміравіч, 1902 г., нар. в. Юхавічы (Лебядзеўскай вол. Вілейскага павета Віленскай губ.), жыў у г. Томску, пілапраў лесаперавальнай базы. Арыштаваны ў 1937 г.
143. Пяткевіч Ільля Напалеонавіч, 1886 г., нар. в. Сціва Дзісенскага павета Віленскай губ., жыў у г. Томску, без акрэсленых заняткаў. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.
144. Пяшкоўскі Іван Мікалаевіч, 1887 г., нар. м. Вішнева Ашмянскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Калпашава, галоўны бухгалтар акружнога аддзялення дзяржбанка. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
145. Рагачоў Яўстафій Антонавіч, 1899 г., нар. в. Іжы (в. Іжа Іжанскай вол.) Вілейскага павета (Віленскай губ.), жыў у в. Асіна, работнік па сыравіне нарыхтоўчай канторы. Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 8 гадоў ППЛ і 5 гадоў пазбаўлення правоў.
146. Радзевіч Пётр Міхайлавіч, 1902 г., нар. м. Маладзечна Вілейскага павета (Віленскай губ.), жыў у г. Томску, шафёр гарадской пажарнай аховы УНКВД. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.
147. Руцкі Уладзіслаў Восіпавіч, 1897 г., нар. маёнтак Зеняпішы (Шчучынскага павета) Віленскай губ. (Баранавіцкай вобл.), жыў у г. Томску, возчык "Химлессоюза". Арыштаваны ў 1940 г. Асуджаны на 8 гадоў ППЛ.

# Там, дзе мяне няма...

**23. Пачатак работы Катэдры беларусістыкі пры ВПУ. Мая перакладніцкая дзейнасьць. Сустрэча з В. Быкавым і Р. Барадуліным.**

Раней чым Беларуская сярэдняя школа пачала працаваць Катэдра беларусістыкі ў Віленскім пэдагагічным унівэрсытэце. Прынялі 12 чалавек, зь Вільні, Грыгішак і 2 дзяўчыны прыехалі зь Беларусі. Загадчыцаю катэдры стала Лілея Плыгаўка, беларускую літаратуру выкладала Ніна Пяткевіч, гісторыю – Тацяна Каротчанкава, Міраслава Русак выкладала ангельскую мову, а я – нямецкую. На катэдры нямецкай філялёгіі вельмі зьдзівіліся, што я згадзілася працаваць зь неспэцыялістамі. У сябе на катэдры я выкладала інтэрпрэтацыю тэксту на 4-5 курсах ды розныя іншыя тэарэтычныя курсы. А тут неспэцыялісты... Але-ж я ўзялася за гэтую працу ня толькі дзеля навучыць студэнтаў катэдры нямецкай мовы, а для таго, каб увесьці іх у беларускую атмасфэру Вільні. І думаю, што ў пэўнай ступені мне гэтае ўдалося.

Лявон тымчасам вёў беларускія радыёперадачы на Літоўскім радыё, працаваў карэспандэнтам зь Вільні на радыё "Свабода", пісаў артыкулы, апрацоўваў матар'ялы для будучай кнігі пра беларускія мясьціны Вільні, актыўна працаваў у ТБК, вадзіў экскурсіі па беларускай Вільні. Да нас часам прыяжджалі госьці зь Беларусі. Лявон быў вельмі гасьцінны, заўсёды запрашаў гасьцей да нас пераначаваць ці пажыць пару дзён. Я старалася памагаць яму, але пасьля інфаркту не заўсёды чулася добра.

Я часта рабіла пераклады на літоўскую мову ўсялякіх папераў патрэбных пры той ці іншай нагодзе. Пераглядаючы архівы Лявона, сярод іх папкі з надпісам "ТБК", я нават зьдзівілася, што столькі пераклала. Пераклала я й два артыкулы Лявона "Беларускі друк у Вільні" (зборнік "Žurnalisto žinynas") й "Беларусы ў паўдзённа-Ўсходняй Літве" (зборнік "Pietryčių Lietuva"). Лявон па-літоўску не пісаў.

Са здарэньняў 1995 г. асабліва запалі ў памяць сустрэча з Васілём Быкавым і Рыгорам Барадуліным. З Быкавым мы былі знаёмыя й раней – ён прыяжджаў у Вільню на запрашэньне Саюзу пісьменьнікаў Літвы, і Лявон запрасіў яго да нас. Удзень Быкаў сустракаўся з рознымі людзьмі, а вечарамі яны зь Лявонам доўга гаварылі. Цяжка было сказаць зь ягоных паводзінаў, што гэта пісьменьнік сусьветнай славы.

У траўні 1955 г. Быкаў прыехаў у Вільню разам з сваім сябрам паэтам Рыгорам Барадуліным на прэзэнтацыю перакладу сваіх двух аповесьцяў "Альпійская балада" і "Воўчая зграя". Пераклаў іх на літоўскую мову Альгімантас Антанавічус, добра нам знаёмы з Асацыяцыі беларусістаў Літвы. Прэзэнтацыя адбылася ў Доме пісьменьніка, які вылучаецца вельмі прыгожым інтэр'ерам недзе канца XVIII ст. Сабраліся ліоўскія пісьменьнікі, сябры Асацыяцыі беларусістаў. Калі Быкаў запытаўся, на якой мове гаварыць, заля хорам адказала: "Па-беларуску!" Быкаў гаварыў пра сваю працу, творчасьць. Выступаў і перакладчык А. Антанавічус.

Пасьля быў невялікі прыём. Быкаў сядзеў поруч з старшынёй Асацыяцыі Альмай Ланінскіне, а насупраць нас зь Лявонам сядзеў Рыгор Барадулін. Я яго бачыла ўпершыню, ведала толькі ягоныя вершы, ён прысылаў свае кніжкі маме, заўсёды зь цёплымі, ласкавымі словамі. Яны былі вельмі розныя – Быкаў і Барадулін. Барадулін чалавек вясёлы, адкрыты, заўсёды гатовы пажартаваць, пасьмяяцца. Яны неяк дапаўнялі адзін аднаго...

Ад тае сустрэчы засталіся ўспаміны й кніжка на літоўскай мове з дэдыкацыямі В. Быкава й перакладчыка А. Антанавічуса. Больш мне не давялося сустрэцца з Васілём Быкавым, толькі калі ён жыў у Франкфурце-на-Майне, неяк перадаў мне прывітаньне праз Барыса Кіта, якому я выслала ягоны "Партрэт" з сэрыі "Партрэты віленчукоў".

*Працяг будзе*

**Галіна Войцік**

# Шлях да Катынскага лесу

*Працяг. Пачатак у № 54.*

## Курорт ад "бальшавізмаманіі"

Была ўжо позьняя восень. Штодзень, то рабілася халадней. Штораз часьцей падаў сьнег. У царкоўных будынках можна было зьмясьціць толькі невялікую частку людзей. Для рэшты былі пастаўленыя палаткі. Тыя спаміж нас, што трапілі у палаткі, меліся шмат яшчэ горш, чымся мы ў нашай царкве. Там было яшчэ брудней, яшчэ халадней і яшчэ цясьней, чымся ў нас. Абурэньне на бальшавікоў і нянавісьць да энкавэдыстых былі гэткія вялікія, што як ні стараліся бальшавісцкія прапагандыстыя распаліць сярод палонных г. зв. "клясавую варожасьць", нацкоўваючы радавых жаўнераў на афіцэраў-"памешчыкаў", – гэта канчалася заўсёды поўнай для іх няўдачай.

Наадварот, гэта мела бадай зусім адваротны й непажаданы для іх вынік, хоць у жаўнерскай масе знаходзілася шмат людзей, якія былі раней пад уплывамі бальшавісцкае прапаганды. Былі сярод жаўнераў нават і партыйныя камуністыя-падпольшчыкі. І з усіх іх "як рукой зьняло" ранейшыя сымпатыі да бальшавікоў. Проста цудоўна вылечыліся яны цяпер з тае хваробы, якую можна было-б назваць "бальшавізмаманіяй". Ды якая-ж прапаганда устояла-б перад той жахлівай рэчаіснасьцяй, якую мы пабачылі на свае вочы ў халодным савецкім раі! Тое "шчасьлівае, радаснае жыцьцё", якое сустрэла нас у глыбіні Саюзу, было для ўсіх, гэткіх наіўных фантастых, запраўды, найлепшай антыбалшавісцкай прапагандай. Бальшавікі гэтага не разумелі... Для іх – усё тое, што поўніла тут нашыя сэрцы агідаю й жудою, было звычайнай штодзённасьцю, нечым, да чаго яны здаўна прывыклі. Нічога дзіўнога, што яны прыходзілі ў роспач, бачачы, што польскія жаўнеры ня толькі ня б'юць сваіх афіцэраў, а, наадварот, ставяцца да іх із даўнейшай пашанай, а нават і стараюцца дапамагчы, чым толькі можна. Гіранічныя ўсьмешкі й ціхая, але сакавітая жаўнерская лаянка, былі адзіным адказам жаўнераў на ўсе энкавэдыстаўскія цкаваньні. Наогул польскі жаўнер – сялянскі й работніцкі сын – стаяў у сваёй культуры нязьмерна вышэй гэткіх самых, здаецца, бальшавісцкіх сыноў і праз увесь час палону захоўваўся із поўнай павагай, аб чым ня можна тут ня ўспомніць.

Кармілі нас таксама вельмі дрэнна. Кухняў было мала, праца ў іх была кепска наладжаная. Нам даводзілася па колькі гадзінаў, пад дажджом і сьнегам, у гразі па калені трэсьціся ў чарзе, каб атрымаць якую лыжку

*Працяг на старонцы 7*

# Пачыналася ў Рыме: прыпаміны пра Ч. Кудабу

Пазнаёміўся я з Чэславам Кудабам у Рыме ў 1990 г. на канфэрэнцыі "РЫМ-І", якая адбывалася там ад 28 красавіка да 6 траўня. Уважаю, што чытачу неабходна вытлумачыць, што гэта такое й як пачыналіся канфэрэнцыі "РЫМ-І", "РЫМ-ІІ" і г. д.

Недзе ў сярэдзіне 1989 г. у Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку пазванілі з Рыму, ці БІНІМ не далучыўся-б да арганізатараў канфэрэнцыі, прысьвечанай пытаньням-праблемам вывучэньня гісторыі Вялікага княства Літоўскага, ці, больш канкрэтна, да падаваньня гісторыі ВКЛ студэнтам і вучням у школах Польшчы, Літвы, Украіны й Беларусі. Зварочваліся да БІНІМу, як да прадстаўніка нацы, аднае з асноўных у ВКЛ. Іншым арганізатарамі былі Польскі Інстытут Хрысьціянскай Культуры ў Рыме, Літоўская Каталіцкая Акадэмія ў Рыме, Усходне-Эўрапэйскі Дасьледчы Інстытут імя Лыпіскага ў Фінлянды (украінцы). БІНІМ пагадзіўся быць арганізатарам і ўдзельнікам канфэрэнцыі, а таксама запрасіў для ўдзелу ў працах канфэрэнцыі, з дакладамі, дасьледнікаў з Бацькаўшчыны: д-ра Адама Мальдзіса, д-ра Анатоля Грыцкевіча й пісьменьніка Васіля Быкава. Ад першых двух на запросіны быў атрыманы станоўчы адказ, а ад Быкава адказу даўгавата не было, аж урэшце пісьменьнік паведаміў, што на канфэрэнцыю прыехаць ня зможа.

У цэлым беларуская дэлегацыя ў Рыме была вялікая: з ЗША былі аўтар гэтых радкоў, д-р. Ян Запруднік, спн. Зора Кіпель, потым далучылася сп-чня Алеся Кіпель, зь Італіі – сп. Янка Мойсік, з Ангельшчыны – а. Надсон, зь Беларусі – д-р А. Мальдзіс, д-р. Анатоль Грыцкевіч, сп. В. Вярэніч, з Польшчы – д-р. Ю. Туронак, праф. Альжбэта Смулкова. Мы ўсе былі радыя, выступалі адной групай. І першы, хто прыйшоў да нас, да групы, быў Чэслаў Кудаба. Ён нас прывітаў, сказаў, што зь беларускімі эмігрантамі сустракаецца ўпершыню ды што нам шмат аб чым будзе пагаварыць.

На адным з адміністрацыйных паседжаньняў было пастаноўлена далейшыя канфэрэнцыі, прысьвечаныя ВКЛ, арганізоўваць у краінах, былых частках княства, пры гэтым адказнасьць за арганізацыю ўскласьці на айчынныя ўгрупаваньні. Паходня была перададзеная: наступныя канфэрэнцыі адбыліся ў Любліне, Украіне, Горадні, Троках. На жаль, пасьля Трокаў канфэрэнцыі прыпыніліся. Хоць вынікі тых канфэрэнцыяў зьяўляюцца цяпер. Як выказаўся ў друку сп. Адам Мальдзіс, нядаўна выдрукаваная "Гісторыя Беларусі" Захара Шыбекі пачаткамі сваімі сягае ў "РЫМ-І"!

З Чэславам Кудабам гаворкі нашыя йшлі ў некалькіх дзялянках. По адукацыі ён – географ. Быў добра знаёмы з мэтадалёгіяй разгалінаваньня геаграфічных дысцыплінаў. Я-ж, атрымаўшы адукацыю ў Лювэнскім унівэрсытэце (геахімія-мінэралёгія), выказаў іншыя погляды на мэтадалёгію геаграфічна-геалягічных курсаў. У гэтай дзялянцы мы з Кудабам прадыскутавалі дзясяткі гадзінаў. Дый ня толькі ў Рыме, а і ў часе пазьнейшых сустрэчаў.

Аспрэчваў у значнай меры Чэслаў Кудаба нашыя погляды на разьвіцьцё ВКЛ, дзе мы ўважалі, што беларускасьць гістарычных ліцьвіноў не належыць да дыскусійнае тэматыкі, мы і ў іншых поглядах, і ў друку ставілі знак роўнасьці паміж ліцьвінамі й беларусамі. А ролю жмудзкасьці ў ВКЛ, якую выказваюць цяперашнія гісторыкі-літоўцы, мы проста не ўважалі за навуковы ўзровень. Прадставілі мы тады Чэславу Кудабу й выпады літоўскіх гісторыкаў супраць беларусаў, нават на ўзроўні друкаў амэрыканскага Кангрэсу.

Нягледзячы на нашыя заўзятыя дыскусіі, мы з Чэславам Кудабам адчувалі сябе вельмі добра, сяброўска. Зьліжала мова, ягонае разуменьне сучасных літоўцаў, як нам здавалася, хаценьне знайсьці супрацоўнае сярэдзіны. Вельмі шмат часу мы правялі ў дыскусіях-расказах пра літоўскую эміграцыю, я расказаў Чэславу Кудабе аб маім супрацоўніцтве зь вельмі шырака знаным літоўскім гідрографам Сьцяпанам Калупайлам ды пра ягоную кнігу пра раку Нёман. (Дарэчы, асабісты экзэмпляр гэтае аўтарытэтнае працы я падараваў Нацыянальнай бібліятэцы ў Менску). Кудаба шмат распытваў пра Аляксандра Ружанец-Ружанцова, які быў дырэктарам Літоўскае Бібліяграфічнае Службы на эміграцыі. Пра супрацоўніцтва зь Літоўскай Энцыклапэдыяй я яму апавядаў усё, што ведаў ад д-ра Вітаўта Тумаша, які ад пачатку быў запрошаны на супрацоўніцтва ў энцыклапэдыі.




*Вокладка першага тому працаў канфэрэнцыі "РЫМ-І". 1990.*

Цяпер, аднаўляючы ў памяці тую рымскую канфэрэнцыю, проста даесься дзіву, як шмат можна прадыскутаваць ў параўнальна кароткі пэрыяд часу. Аднойчы ў перапынку між дакладамі Чэслаў Кудаба сядзеў з намі, беларусамі, і я, успамінаючы студэнцкія гады, палявыя працы, неяк выйшаў на тэму геалягічных экскурсіяў. І амаль аднachасова мы з Кудабам выказаліся, што было-б добра, каб на тэрыторыі Беларусі быў-бы "зроблены" арганізаваны "марэнны" запаведнік, асабліва ў паўночна-заходніх мясьцінах Беларусі, якія ён, бязспрэчна, добра ведаў. Дарэчы, значна пазьней аб гэткім пляне мы гутарылі й з акадэмікам Радзімам Гарэцкім (ініцыятыва выходзіла зь Менску), але пасьля 1994 г. пра гэта гаварыць было ўжо безкарысна!

Няма словаў, заўчасная сьмерць Чэслава Кудабы ёсьць вялікая страта і для літоўскага грамадзтва, і для нас, беларусаў. Вечная яму памяць.

**Вітаўт Кіпель**

## Яшчэ раз пра Цімафея Косьцевіча

У "Руні" № 46 я коратка апісаў лёс Цімафея Косьцевіча, згадаўшы, што пасьля ягонага вяртаньня на Бацькаўшчыну далейшае ягонае жыцьцё нам невядомае. Але-ж вось натрапіў у польскай кніжцы "З-пад Монтэ Касіно ў Сыбір" на ст. 97 на наступную зацемку: "Косьцевіч Цімафей, сын Ёсіфа, нарадзіўся ў 1893 г. у Віленскім ваяводзтве. Жаўнер польскага войску на Захадзе (ПВЗ). У 1951 г. сасланы да Іркуцкай вобл. Далейшы лёс невядомы". А на 79 ст. той самай кнігі ёсьць прозьвішча Яткі-Яткоўскага Барыса. У 40-х гг. я яго добра ведаў, будучы ў Палестыне. Барыс быў украінцам і да вайны быў опэрным сьпеваком у Львове. Па вайне пастанавіў вярнуцца ва Украіну. У 1951 г. яго, як былога жаўнера ПВЗ, таксама заарыштавалі й вывезьлі на катаргу да Іркуцкай вобл.

Цімафей Косьцевіч і Барыс Ятко-Яткоўскі два разы патрапілі ў энкавэдысцкія абцугі. Зь першых выйшлі жывымі ў 1942 г., але ці засталіся жыць пасьля арышту й ссылкі ў 1951, мы ня ведаем... Так вось Саветы патракталі жаўнераў з саюзнага ім войска: арыштамі і ссылкай.

**Міхаіл Швэдзюк**, *Англія*

Юры Весялкоўскі

# Хто каго вучыў?

*Працяг. Пачатак у № 51-54*

Аднак царскі ўрад не зьвяртаў увагу ні на беларускую мову, ні на беларускі народ. Адумысловым указам Мікалая I ад 18 ліпеня 1940 г. беларускія землі прынялі назоў "Северо-Западный край". Мікалай I назначыў новага міністра асьветы Уварава. У разуменьні гэтага міністра прадметы геаграфіі й сучаснай гісторыі зьяўляліся небясьпечнымі для моладзі. Расейская імпэрыя напрацягу свае гісторыі змагалася супраць фармаваньня нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў і ўкраінцаў, навязваючы ім сваю мову, як сродак абрусайваньня.

У часе паўстаньня К. Каліноўскага "Мужыцкая праўда" пісала: "У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаць памаскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабілі на маскаля..." Пасьля заняпаду паўстаньня беларуская прэса была забароненая віленскім губэрнатарам М. Мураўёвым. Былі зьнішчаныя фізычна некаторыя ўдзельнікі паўстаньня, царская адміністрацыя ўзялася за абрусайваньне беларусаў праз свае школы й царкву. За прыклад можа паслужыць сьведчаньне ўплывовага царскага чыноўніка, куратара Віленскай школьнай акругі Н. Карнілава, каторы ў 1864 г. так ахарактарызаваў ролю й задачу расейскай школы: "Здешние училища, независимо от педагогического, имеют и важное политическое значение, как орудия противодействия местным, враждебным государству элементам, так и для образования народа на незыблемых началах веры и преданности престолу и отечеству". Такая "школа" ставіла сабе за мэту выхоўваць беларускіх дзяцей больш у палітычным духу, чым у асьветніцкім, каб як мага хутчэй зрусыфікаваць іх.

Нягледзячы на рэпрэсіі царскае ўлады, беларуская літаратура, хоць і стыхійна, жыла й разьвівалася. Найбольш вядомымі ў той час былі ананімныя творы "Вось цяпер які люд настаў", "Размова пана з хлопам", "Гутарка Данілы са Сьцяпанам" ды інш. У гэтых "гутарках" выказваліся нараканьні на цяжкі лёс, на несправядлівасьць уладаў, на прыгнёт, выказвалася надзея на палепшаньне свае долі. Пісаліся палітычныя сатыры, вершы, паэмы, каторыя распаўсюджваліся ў рукапісах, не падаючы прозьвішчаў.

Пра неспрыяльныя ўмовы для беларускай нацыянальна-культурнай работы тае пары згадвае ў сваёй капітальнай працы "Беларусы" (том 3, кн. 3, ст. 3) Яўхім Карскі: "Здавалася, мяйсцовай мове паложаны канец: галоўны сродак выяўленьня народнага духу быў адабраны... Але... у тыя часы мала зьвярталі ўвагі на просты народ, які касьнеў у змроку невуцтва й жывіў сваё духовае жыцьцё толькі вуснай паэзіяй. А між тым, ён і быў корань і аснова беларускай народнасьці; ён і аказаўся галоўным хавальнікам жывой гаворкі: у ім свабодна і незабруджана цякла крыніца жывой вады, якая ня высахла й да гэтага часу".

Удзельнік паўстаньня 1863 г., "бацька беларускай паэзіі" Францішак Багушэвіч пісаў у прадмове да "Дудкі беларускай": "Братцы мілыя, дзеці зямлі – маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долінядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя "мужыцкай" завуць, а завецца яна беларускай... Я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсьць такая-ж людзкая і панская, як і француская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая... Яно добра, а нават і трэба знаць суседзкую мову, але наперш трэба знаць сваю... Не пакідайцеж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!"



SIELANKA.

OPERA WE DWÓCH AKTACH,

napisana

przez

WILNO.

1846.



HAPON,

Powieść białoruska, z prawdziwego zdarzenia, w języku białoruskiego ludu napisana.

przez

MIŃSK.

NAKŁADEM KSIĘGARZY MIŃSKICH, BRACI BEJLINÓW.

1855.

*Тытульныя лісты першых кнігаў В. Дуніна-Марцінкевіча.*

Памагаў К. Каліноўскаму ў паўстаньні й Дунін-Марцінкевіч. Праседзеў амаль год у турме паводле абвінавачваньня ў пісаньні на беларускай мове рэвалюцыйных праклямацыяў. Блізкасьць пісьменьніка да народу й спачуваньне да яго, веданьне панаючых абставінаў прынесьлі пісьменьніку вялікую пашану сярод навакольнага сялянства. Творчасьць Дуніна-Марцінкевіча зацікавіла карэспандэнта "Газэты Варшаўскай" і ён 23 чэрвеня 1855 г. пісаў аб беларускай мове: "Пекная гэтая галіна славянскай мовы – гэты крывіцкі дыялект – і старая. Бо гэта мова нашага Літоўскага Статуту й заканадаўства напрацягу двух стагодзьдзяў – XVI і XVII. I пашыраная. Бо сьмела можна сказаць, што на ёй размаўлялі тры чвэрці Літвы, народ, шляхта й паны. Сёньня мова, пазбаўленая пісьмовага значэньня, засталася толькі роднай памяткай сялянскіх хатаў".

Аднак на творы Дуніна-Марцінкевіча, якія ён пісаў па-беларуску, адзываліся крытычныя галасы палякаў і расейцаў, каторыя ўважалі Беларусь за сваю правінцыю, і папракалі пісьменьніка за ягоную мову. На што Марцінкевіч адказаў: "Жывучы сярод люду, які размаўляе па-беларуску, прасякнуты ягоным ладам думак, марачы аб долі гэтага братняга народу, анямеўшага ў маленстве ад невуцтва й цемнаты, вырашыў я для заахвочваньня яго да асьветы ў духу ягоных звычаяў, паданьняў і разумовых здольнасьцяў пісаць на ягонай уласнай гаворцы" (В. І. Дунін-Марцінкевіч. Збор твораў. Мінск, 1958, ст. 416).

*Працяг будзе.*

Мікалай Калінін

# Дыскрымінацыя цыганаў у Беларусі

Калі ўзяць за аснову афіцыйныя статыстычныя дадзеныя, дык у Рэспубліцы Беларусь пражывае прыблізна 15-17 тыс. цыганаў. Аднак, як паказалі дасьледаваньні, праведзеныя зь ініцыятывы Грамадзкага аб'яднаньня "Беларуская цыганская дыяспара", гэтая лічба значна вышэйшая й складае 70 (!) тыс. У сапраўднасьці, афіцыйная статыстыка ня ўлічвае літоўскіх цыганаў, якія стала пражываюць на тэрыторыі Беларусі, залічваючы іх да "літоўцаў", ня ўлічвае таксама вялікую колькасьць малдаўскіх цыганаў, якія падчас канфлікту ў Прыднястроўі пераехалі ў Беларусь, залічваючы іх да "малдаванаў". Афіцыйная статыстыка ня ўлічвае таксама вялікую групу цыганаў-бежанцаў, якія прыбылі ў Беларусь з розных рэгіёнаў былога Савецкага Саюзу й значацца асобамі без грамадзянства. Апошнія жывуць наогул бяз колечы-якіх дакумантаў, але праз гэта не перастаюць быць цыганамі.

Праведзены ў 1997 г. перапіс насельніцтва таксама не адлюстраваў існуючай рэальнасьці, паколькі многія цыганы былі змушаныя сьвядома хаваць сваё нацыянальнае паходжаньне, каб такім чынам пазьбегнуць дыскрымінацыі паводле нацыянальнай прыкметы. З гэтай самаю мэтаю і ў цяперашні момант шмат якія цыганы запісваюць дзяцей беларусамі.

Цыгане Беларусі фактычна адлучаныя ад актыўнага грамадзкага й палітычнага жыцьця рэспублікі. Няма ніводнага прадстаўніка цыганскай нацыянальнасьці ні ў рэспубліканскіх, ні ў мяйсцовых органах выканаўчай улады. Цыгане не прадстаўленыя таксама ні ў органах заканадаўчай улады, ні ў органах мяйсцовага самакіраваньня. Палітычная ізаляцыя цыганаў Беларусі йснуе не таму, што цыгане палітычна абсалютна пасыўныя, – проста ўрад Беларусі не разглядвае цыганаў, як нацыю, якая заслугоўвае мецьць сваіх прадстаўнікоў у органах улады. У гэтым сэньсе дыскрымінацыя йснуе не адзін год бязь колечы-якога палепшаньня.

Безумоўна, адлучанасьць цыганаў ад палітычнага жыцьця краіны спараджае іхную дыскрымінацыю і ў іншых сфэрах грамадзтва. Існуе дыскрымнацыя цыганаў у дачыненьні рэалізацыі імі іхных канстытуцыйных правоў і свабодаў. Міністэрствы й ведамствы Беларусі не жадаюць разьвіваць цыганскую культуру, мастацтва, спрыяць досьледам у гэтым кірунку. У Рэспубліцы няма ніводнай газэты на цыганскай мове, не праводзіцца аніякіх культурных мерапрыемстваў.

Што тычыцца пытаньняў атрыманьня цыганамі пачатковай адукацыі, дык у гэтам выпадку праблемаў няма. Аднак варта адзначыць, што прадстаўнікі цыганскага народу самі не імкнуцца атрымаць закончаную сярэднюю адукацыю, ведаючым, што потым усё роўна ня змогуць рэалізаваць сябе, свае веды й таленты. У цяперашні момант сытуацыя зьмянілася ў бок зацікаўленасьці маладых цыганаў у атрыманьні адукацыі, якая адпавядае сучасным патрабаваньням. Пры гэтым здараюцца выпадкі адмоваў у прыёмцы цыганаў у школы з паглыбленым вывучэньнем тых ці іншых дысцыплінаў. У прыватнасьці, адной цыганскай дзяўчынцы, якая мае схільнасьць да музыкі, было адмоўлена ў прыёмцы ў музычную школу г. Віцебска, нягледзячы на тое, што іспыты яна здала пасьпяхова. Растлумачыць сваю незаконную адмову дырэктар згаданай школы адмовіўся. Нярэдка пэдагогі сярэдніх школаў адмоўна ставяцца ня толькі да сваіх вучняў-цыганаў, а й да цыганаў наогул. Такім чынам, ужо ў малым узросьце цыганы сутыкаюцца з дыскрымінацыяй.

Яшчэ больш праблематычным зьяўляецца атрыманьне цыганамі вышэйшай адукацыі. Выпадкаў, калі цыгане з прычыны свайго нацыянальнага паходжаньня не паступілі ў тую ці іншую вышэйшую ўстанову, процьма. Маладыя цыгане, якія паставілі сабе за мэту атрымаць вышэйшую адукацыю, не паступаюць у сувязі з дыскрымінацыяй у вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы, аднак без асаблівых цяжкасьцяў і перашкодаў паступаюць на платныя факультэты й паказваюць даволі высокі ўзровень у навучаньні. На жаль, навучаньне на платых факультэтах могуць дазволіць сабе нешматлікія цыганскія сем'і.

Такім чынам, у дачыненьні да цыганаў існуюць як асобныя парушэньні іхных правоў на атрыманьне пачатковай адукацыі, так і ўскрай жорсткая дыскрымінацыя пры атрыманьні вышэйшай адукацыі. Калі нічога не рабіць, у хуткім часе, магчыма, сярод цыганаў узьнікне сытуацыя татальнай неадукаванасьці. Сёньня 85-90 цыганаў практычна непісьменныя. Гэта жахлівая лічба, але яна йснуе!

У. Падгол

# Замест рэвалюцыі ружаў у Беларусі можа адбыцца Другое перунова прышэсьце

На гэтым тыдні зрабілася відавочна, што Беларусь увайшла ў фазу лёсавызначальных палітычных падзеяў. 11 траўня па беларускім тэлебачаньні паказалі дакумантальны фільм "Шлях у нікуды". 13 траўня фільм паўтарыў першы нацыянальны тэлеканал. Абодва тэлеканалы – прэзыдэнцкія. У фільме лідары апазыцыі былі паказаныя ў абліччы, якое атаясамлявалася са здраднікамі Радзімы, паслугачамі гітлераўскіх фашыстаў, наймітамі расейскіх алігархаў, хцівымі ды сквапнымі раскрадальнікамі замежных грантаў, а Шушкевіча паказалі ў момант, калі той казытаў пальцам у носе, – значыць нявыхаваным.

Традыцыя бэсьціць апанэнтаў вельмі трывалая ў Лукашэнкаўскім рэжыме. У 1995 г. напярэдадні рэферэндуму беларусам паказалі фільм "Нянавісьць – Дзеці хлусьні". А пасьля правялі рэферендум па мове. Напярэдадні рэферэндуму 1996 г. па радыё прэзыдэнцкія ідэолягі стагналі: "Няўжо не ведаюць Багданкевіч і Карпенка, што на Беларусі падчас апошняй вайны загінуў кожны чецвёрты? Няўжо ня ведаюць, што Чарнобыль панішчыў людзей? Відаць не!!! Яны хочуць заліць крывёю краіну, а заўтра выведуць танкі насупраць прэзыдэнцкага палацу й растраляюць законна абранага прэзыдэнта!" Напярэдадні выбараў прэзыдэнта 2001 г. увесь год выбаршчыкам круцілі фільмы пра адмоўнае аблічча прэтэндэнтаў на статус кандыдата ў прэзыдэнты. І вось чарговая агітка пра ворагаў беларускага народу.

Што адметнага ў 40-хвілінным тэлекілерстве? Бэсьцілі ўсіх, хто заявіў аб сваіх намерах стаць кандыдатам у прэзыдэнты. Значыць, наблізілся ня проста парляманцкія выбары й рэферэндум аб 3-ім (ці бясконцым?) тэрміне, а наблізіліся непасрэдна выбары прэзыдэнцкія.

*Праект У. Падгола "Аналітычны маніторынг СМІ". Выпуск-43.*

# Шлях да Катынскага лесу

*Працяг са старонцы 3*

марнае поліўкі. Падзелу паміж афіцэрамі й жаўнерамі не было ніякага. Усе елі з аднаго катла, і ўсе зносілі разам свой аднолькава цяжкі лёс.

## Яны хлусілі, а мы верылі

А бальшавікі й далей манілі нам, і, хоць гэта гучыць бадай непраўдападобна, бальшыня палонных проста зь дзіцячай наіўнасьцяй і далей верыла ім. Лягер наш, як ужо сказана, месьціўся ў мурох былога кляштару... Мур быў высокі, сярэднявечны, але й яго было замала "пільным" нашым вартаўніком. За дзесяць больш-менш мэтраў ад муру йшоў другі мур, яшчэ мо вышэйшы – густая сетка калючага дроту, зь вежамі-байніцамі, абстаўленымі кулямётамі. На выпадак, калі-б не далі нам рады ні муры, ні драты, ні кулямёты – у паясе, абмежаваным кляштарным мурам і драцянымі засекамі, дзень і ноч лёталі адмыслова вышкаленыя сабакі... Гэтак пільнуючы нас, каты нашыя хлусілі нам у вочы, запэўняючы, што мы ім зусім непатрэбныя, што нас хутка выпусьцяць... "Да что вы, – штодня дзяўблі яны, – зачем вы нам? Вот поживите у нас немного, отдохните (!) – и домой поедете, все поедете, как же! А кто остаться захочет, будет у нас работать. Да, увидите сами, как у нас люди живут! Не то, что у вас, у капиталистов!" І мы, як гэта ні дзіўна, верылі... Разумецца, верылі ў тое, што нас усё-ж нарэшце вызваляць, бо як-жа? – Сам Цімашэнка падпісаў!

## "Звальненьне пачынаецца"

Тымчасам, больш-менш на трэцім тыдні нашага знаходжаньня ў лягеры, бальшавікі пачалі вывозіць радавы склад. Бальшавіцкія прапагандыстыя запэўнілі нас, ведама, што гэта пачатак сыстэматычнай акцыі звальненьня й цьвердзілі, што жаўнеры звальняюцца з палону й перавозяцца цягнікамі дахаты. І жаўнеры, і мы гэтым запэўненьням шчыра верылі... цешыліся... Толькі шмат пазьней даведаліся мы, што жаўнераў ніхто й ня думаў звальняць із палону й адсылаць дадому – блізу ўсіх іх бальшавікі перавезьлі на цяжкую працу ў капальнях руды ў Крывы Рог ды іншыя мясцовасьці.

Вываз жаўнераў адбываўся ў "стаханаўскім" тэмпе, і ўжо за тыдзень часу ў халодных мурох Старабельскага кляштару засталіся толькі адны афіцэры. У лягеры зрабілася крыху прастарней, на душы таксама крыху павесялела... Пасьля жаўнераў – чарод вызваленьня быў за намі...

Але міналі дні, а ніхо аб нас ня рупіўся, аб звальненьні неяк нічога не было чуваць. Наадварот, пэўнага сьцюдзёнага лістападаўскага дня ў лягер прыбыла новая партыя палонных афіцэраў, за ёй яшчэ адна... і хутка наш лягер запоўніўся зноў да апошняга кутка грамадою стомленых, абадраных людзей. Улады перапісалі нас нанова (перапісвалі яны нас мала не штодня), падлічылі – усіх нас, афіцэраў, аказалася ў Старабельскім лягеры 4.000 чалавек.

*Працяг будзе*

# Іўе

*Працяг са старонцы 1*

машынаў з розным вайсковым начыньнем. Усё там гарэла, выбухалі гранаты, снарады, бочкі з палівам. Адзін ацалелы нямецкі танк, які ахоўваў калёну, завярнуў назад у Іўе, і неўзабаве стуль у Яталтавічы прыехала шмат машынў, танкаў і салдатаў. І хаця ў вёсцы партызанаў не было, азьвярэлыя немцы загналі вяскоўцаў у хаты ды гумны й спалілі жыўцом. Загінула 97 чалавек. Мы з стрыечным братам Браніславам й нашымі маткамі ўцяклі ў іншую вёску. Бацька Браніслава Ян Кішпель з сябрам Вітальдам Грачынскім удзельнічалі ў баёх пад Монта-Касіна. Вітольда там забілі. У яго засталося пяцёра дзяцей-сіротаў. А Ян вярнуўся зь Італіі. Аднак цераз пару месяцаў па вяртаньні яго разам зь сям'ёй вывезьлі ў Сыбір. Там Кішпелі прабылі 6 гадоў, а потым, у рамках савецкай паваеннай рэпатрыяцыі польскіх грамадзянаў, яны апынуліся ў Гданьску. Яшчэ адзін іўевіц Браніслаў Усс (Вус?) ляжыць у магіле на балтыцкім узьбярэжжы на Вастэрпляце. 12 маладых хлопцаў зь Іўя (у іх ліку два браты маёй маці Зыгмунт і Ян і муж сястры Стасі) будавалі аэрадром у Шчучыне. Неяк яны ўсе йшлі ў суботу дамоў. А іх каля Іўя затрымалі й расстралялі.

6 ліпеня 1944 г. мястэчка было "вызваленае" ген. Н. С. Асьлікоўскім. І закіпела новае савецкае жыцьцё: дэпартацыі, эміграцыі, калектывізацыя, партызанскі супраціў. Асабліва перасьледавалі "акаўцаў" (рэшткі Арміі Краёвай). Памятаю, як злоўленага афіцэра-акаўца, з зьвязанымі рукамі й з ланцугом на шыі, вадзілі па вёсках і мястэчках Віленшчыны й паказвалі ўсім, як "ворага народу". Акаўцы таксама не засталіся ў даўгу. Злавілі афіцэра-чырвонаармейца, прывезьлі ў в. Залесьсе, страшэнна там яго каталі, потым прывязалі да сабачай будцы на ланцуг. Там ён і паміраў, а як памёр, закапалі пад парогам хлява.

Наш калгас арганізоўвалі з аўтаматамі на чырвоным сукне стала, пры якім сядзелі самыя арганізатары. Перад сталом стаяла табурэтка. Вяскоўцы сядзелі наўкола на лавах, прымучаныя, спалі, гарэла лямпа-капцілка бяз шкла. Іх па чарзе выклікалі да стала. Размова пачыналася з расейскага мату-перамату й абавязковага: "Ну, как, польская морда, в колхоз будешь вступать!?" Неяк у вакно нехта ўрэзаў аўтаматную чаргу. Лямпа згасла. Разам зь сялянамі з хаты выбраліся й арганізатары.

Памятаю, як у Суботніках за Гаўёй пяцёх такіх "арганізатараў" "акаўцы" ўлажылі, а аднаго з каня сьцягнулі ды жыўцом калом да зямлі прыбілі... Можа з таго часу і ўзьнікла акрэсьленьне наваколіцаў Іўя, як "край цемры й бандытаў". Поўная-ж калектывізацыя тут была завершаная толькі ў 1953 г. і была яна вельмі слабая. Так у калгасе "30 гадоў БССР", што пад самым Іўем, была толькі адна карова, а ў калгасе ім. Сталіна (ў Геранёнах) – 5. Гэта ўжо пазьней пачалося сякое-такое гаспадарчае разьвіцьцё, і хор з Іўя ў 1971 г. выступаў нават у Маскве на ВДНГ.

Але ўсё вышэй сказанае ня тычылася самага галоўнага й цікавага ў Іўі – маяцовых беларускіх татараў. Пра іх гутарка ў наступным нумары "Руні".

**Юзаф Русакевіч**

## Мэмарыяльная табліца

нашай знакамітай паэткі Натальлі Арсеньневай была адкрытая 22 траўня ў Вільні ў гонар 100-годзьдзя з дня ейнага нараджэньня. Аўтар табліцы – скульптар Шатэрнік, а спонсары – былы міністар замежных справаў РБ П. Краўчанка й ЗБС "Бацькаўшчына". Як выявілася на адкрыцьці табліцы, яна першы памятны знак, прысьвечаны Арсеньневай. Сымбалічна й тое, што табліцу ўмацавалі на муры былой Віленскай Беларускай Гімназіі, якую паэтка скончыла ў 1921 г.

**Павал Саўчанка**

*Больш як два гады таму ў артыкуле «Будучыня Беларусі залежыць ад змаганьня» Зянон Станіслававіч Пазьняк папярэджваў: «Галоўны націск у захопе Беларусі Масква пачынае рабіць не на фармальна-палітычнае аб'яднаньне й гандаль з Лукашэнкам, а на пакрокавае прыўлашчваньне беларускай эканомікі й нацыянальнай маёмасьці, на захоп нашай краіны эканамічнымі мэтадамі (дэ-факто), абмінаючы Лукашэнку. За гэты час Масква й ейная агентура ў Беларусі навязала сьціслыя кантакты з дырэктарамі беларускіх нрадпрыемстваў. Стварыла ў дырэктараце сваё лёбі, агентуру, прыхільнікаў і стаўленьнікаў. (Гэта нескладана было зрабіць, бо савецкі дырэктарат у Беларусі й так быў прамаскоўскі). Масква пачала захоп беларускіх нрадпрыемстваў за нлячыма ў Лукашэнкі, уступаючы ў кантакты непасрэдна з нрадпрыемствамі й дырэктарамі...» А вось што мы маем сёньня...*

# Эканамічная экспаньсія ўсходняга суседа

Фінансавыя й прамысловыя колы Расеі аказваюць ціск на У. Пуціна з мэтаю змусіць яго заняць больш жорсткую й прынцыповую пазыцыю ў дачыненьні да Беларусі. Гаворка йдзе пра жаданьне фінансава-прамысловага лёбі прымусіць А. Лукашэнку выканаць раней узятыя абавязкі ў галіне эканамічнага супрацоўніцтва паміж афіцыйнымі Масквой і Менскам. Як вядома, напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 2001 г. Лукашэнка даў вусныя гарантыі, падмацаваныя подпісамі тадышняга прэм'ер-міністра У. Ярмошына пад канкрэтнымі двухбаковым Дамовамі, аб рэалізацыі сумесных эканамічных праектаў. Пад гэтым меўся на ўвазе ўдзел расейцаў у акцыянаваньні беларускіх прадпрыемстваў, у тым ліку ў набыцьці кантрольных пакетаў акцыяў, ва ўліваньні расейскага капіталу ў найбольш прывабныя галіны вытворчасьці й канкрэтныя заводы, у сумесным прасоўваньні прадукцыі на зьнешнія рынкі, у аказаньні пасрэдніцкіх паслугаў, у набыцьці нерухомасьці й зямлі ва ўласнасьць і г. д. Расейцаў не задавальняе, а, дакладней, абурае той факт, што ў парушэньне ўсіх раней дасягнутых дамоўленасьцяў А. Лукашэнка сваім Дэкрэтам увёў правіла "залатой акцыі".

Як зрабілася вядома, у самы бліжэйшы час (травеньліпень) дзелавымі расейскімі коламі пачне рэалізоўвацца плян экспансіі на беларускі рынак. З гэтай нагоды плянуецца правядзеньне на тэрыторыі Беларусі разнастайных спэцыялізаваных мерапрыемстваў: сымпозыумаў, сэмінараў, дзелавых сустрэчаў і кангрэсаў. На іх будуць запрашацца дырэктарскі корпус Беларусі, высокапастаўленыя чыноўнікі міністэрстваў і ведамстваў. Вобразна кажучы, гэта неабходна расцэньваць як "папярэднюю разьведку", у ходзе якой расейцы хочаць, празь непасрэдныя кантакты, даведацца пра сапраўднае становішча на беларускіх заводах, бліжэйшую й стратэгічную пэрспэктыву ў выпуску й рэалізацыі прадукцыі, рэальнасьць і мэтазгоднасьць укладаньня капіталу ў той ці іншы беларускі завод, іхную канкурэнтназдольнасьць.

Адначасна ў Менск прыедуць прадстаўнікі буйнога расейскага бізнэсу, якія маюць намер у вультыматыўнай форме патрабаваць ад беларускага кіраўніцтва выкананьня раней узятых абавязкаў. Цалкам натуральна, што іх найперш будуць цікавіць пэрспэктыўныя праекты й канкрэтныя прамысловыя прадпрыемствы. Куратарамі дадзенага Праекту зьяўляюцца, нібыта, ачольнік Саюзу прадпрыймальнікаў РФ Аркадзі Вольскі й генэрал ФСБ Шараеў. Афіцыйны Крэмаль у асобе Ўраду на гэтым этапе будзе дыстанцыявацца ад актыўнага ўмяшаньня ў працэс, таму што не выключае негатыўнай рэакцыі А. Лукашэнкі на прад'яўлены яму вультыматум, – як тое было ў сытуацыі з г. зв. "газавай атакай".

Маецца інфармацыя, што дзелавымі коламі РФ распрацаваны нейкі "10-бальны рэйтынг прывабнасьці беларускіх суб'ектаў гаспадараньня". Нашыя суседзі й бліжэйшыя саюзьнікі не прымаюць работу па праграме "Саюзны тэлевізар" (ПА "Гарызонт" і ПА "Віцязь"), якую патрануе Павел Барадзін. Ня вабяць іх і такія прадпрыемствы (Беларусь стараецца выдаць іх як найбольш стабільныя й пэрспэктыўныя ў пляне супрацоўніцтва), як "Атлант" і "Цветатрон" (Брэст) і, як гэта ня дзіўна (хаця цалкам вытлумачальна з прычыны наяўнасьці ў РФ сваіх трактарагігантаў), МТЗ.

Да 1-ай шкалы рэйтынгу аднесяцца г. зв. "сыравінныя аб'екты": "Белтрансгаз", Мазырскі й Наваполацкі нафтаперапрацоўваючыя заводы, Магілёўскае "Хімвалакно".

Да 2-ой шкалы рэйтынгу аднесяцца прадпрыемствы ВПК "Інтэграл", "БелОМО" і завод ім. Вавілава. Па асобных накірунках будуць мець месца дзелавыя кантакты з Барысаўскім танкарамонтным заводам № 140, "Мінітор-Сэрвісам" і Баранавіцкім АРЗ.

Да 3-яй шкалы рэйтынгу аднесяцца: Жлобінскі БМЗ, МАЗ і МЗКТ, Салігорскі "Беларуськалі", "Белшына".

Да 4-ай шкалы рэйтынгу аднесяцца: цукровыя заводы (Жабінка, Гарадзея, Слуцак), прадпрыемствы сьпіртовай і тытунёвай прадукцыі.

Прадпрыемствы станкабудаўніцтва (УП Мінскі завод ім. Кастрычніцкай Рэвалюцыі й аналягічныя заводы ў Воршы й Баранавічах), як гэта ня дзіўна, аднесяцца ў гэтым рэйтынгу толькі да 8-ай шкалы. Пасьля іх ідуць прадпрыемствы лёгкай прамысловасьці, сельскай гаспадаркі й ЖКГ (жыльлёва-камунальнай гаспадаркі).

***"Сводка № 1 (13)" Независимого информационно-аналитического центра (НИАЦ)***

## Умовы падпіскі на газэту "Рунь"

Жыхары Літвы (дый жыхары іншых краінаў падчас прабываньня ў Вільні) могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: 261 62 24). Для жыхароў Літвы кошт падпіскі на год – LTL 20,00.

Падпішчыкам зь Беларусі ў наступным нумары паведамім тэлефон нашага карэспандэнта ў Менску. Кошт падпіскі на год – сума ў бел. рублях, эквівалентная USD 10,00.

Падпішчыкі зь іншых краінаў могуць падпісацца, даслаўшы на адрас рэдакцыі імянны чэк сакратару газэты Паўлу Саўчанку (Pavel Savcenko). Кошт падпіскі на год – USD 30,00 (EUR 25,00).

✉ Адрас для допісаў:
«Рунь», 01004 Vilnius, a/d 1021

**Ахвяраваньні на газэту:**

| | |
|---|---|
| М. Смаршчок з Амэрыкі | USD 100 |
| Суполка "Скарына" з Чэхіі | LTL 50 |

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
Выдаецца з 1997 году.
Выходзіць адзін раз у месяц.
Выдаўца: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі».
Адрас рэдакцыі:
01004 Vilnius, a/d 1021
тэлефон: (+ 370) 652 07933
факс: (+ 370 5) 242 38 02
http://www.runbel.lt
e-mail: editor@runbel.lt
Алег Мінкін – рэдактар
Павал Саўчанка – сакратар
Наклад 1000